**Тэма нумару:** Палітычная спякота

НАШ Магілёў

# Наш Магілёў

Грамадска-палітычная незалежная газета горада № 46(8), жнівень 2010 года

# Фільм "Хросны бацька" становіцца серыялам

*Ігар Барысаў*

**З невялікай па часе разбежкай (5 ліпеня, 16 ліпеня і 15 жніўня) расійскі тэлеканал "НТВ" паказаў расійскім тэлегледачам фільмы пра Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнку "Хросны бацька-1", "Хросны бацька-2" і "Хросны бацька-3". Беларускія тэлегледачы не здолелі пагглядзець "хросную трылогію", бо ў гэты час канал "НТВ" быў перакрыты іншымі беларускімі перадачамі, але карыстальнікі інтэрнэта з лёгкасцю маглі прагглядзець гэты фільм на "youtube", з якога ён перакачваўся на іншыя апазіцыйныя сайты.**




Некаторым так спадабаўся гэты фільм, што яны пачалі запісваць яго на кампакт-дыскі і распаўсюджваць сярод зацікаўленых.

Раней, калі які-небудзь расійскі тэлеканал, адважваўся паказаць крамольныя сюжэты пра Беларусь - трансляцыю проста перарывалі і на тэлевізары ў лепшым выпадку можна было прачытаць "НЕТ СИГНАЛА".

Зараз жа гэта адбываецца амаль безбалезненна і беларускія тэлегледачы нават і не падазраюць, што ў гэты час павінен ісці фільм пра беларускага Прэзідэнта. Што казаць, рэжым тэхнічна эвалюцыянуе.

Можна сказаць з упэўненасцю, што фільмы, якія "НТВ" пачаў паказваць у сваім эфіры былі калі не замоўленыя Крамлём, то паказваліся з яго маўклівай згоды, бо як кажуць рускія, "хороша ложка к обеду".

Не сакрэт, што беларуска-расійскія ўзаемадносіны знаходзяцца ў самым дрэнным стане ад моманту стварэння бутафорскага палітычнага саюза Беларусі і Расеі. Пытанне з прызнаннем акупіраваных Расеяй рэспублік Абхазіі і Паўднёвай Асетыі Беларусяй не вырашана, прыватызацыя беларускіх гігантаў і іншых ласых кавалкаў беларускай эканомікі не адбываецца так, як бы гэта бачылі расіяне, перманентныя мясныя, малочныя, цукравыя і іншыя войны, якія перыядычна ўскалыхоўваюць грамадства, не спрыяюць цесным узаемаадносінам суседзяў. Высокае мыта на расійскую нафту прымусіла Беларусь шукаць альтэрнатыўныя крыніцы пастаўак гэтай сыравіны і знайсці іх у Венесуэле. Газавыя войны з Беларусяй прымусілі расійскі ўрад будаваць трубаправоды ў абыход Беларусі ("Паўночны" і "Паўднёвы" патокі).

Высокая цана на газ вымусіла беларусаў шукаць альтэрнатыўныя крыніцы здабыцця электраэнэргіі і ад гэтага з'явіўся праект пабудовы атамнай электрастанцыі. Спачатку хацелі запрасіць расіян, каб яны ўдзельнічалі ў яе будаўніцтве, але пасля апошняй заявы Аляксандра Лукашэнкі можна чакаць, што яны не будуць дапушчаны да гэтага грандыёзнага для Беларусі праекта.

Цяперашняя вайна, якая ідзе паміж Беларуссяй і Расеяй, з'яўляецца інфармацыйнай.

То Аляксандр Лукашэнка дасць прэс-канферэнцыю для апазіцыйных расійскіх СМІ, то Дзмітрый Мядведзеў не абыйдзе беларускага Прэзідэнта, каб не раскрыць некаторыя цікавыя факты добрасуседскіх узаемаадносінаў. Апошняе, што гразіўся зрабіць Дзмітрый Мядведзеў - гэта надрукаваць у СМІ стэнаграму размовы Прэзідэнта Беларусі, якая бы была цікавая, на яго думку, усім, бо дазволіла б падлавіць яго на хлусні.

Трэба адзначыць, што ў Беларусі (пры лепшым сцэнарыы) хутка павінны прайсці прэзідэнцкія выбары (па горшаму сцэнару іх проста не будзе). Іх дата яшчэ невядомая, але краіна замерла ў напружаным чаканні.

Інфармацыйныя войны могуць азначаць, што Расея перастала рабіць стаўку на Аляксандра Лукашэнку і шукае яму замену. Традыцыйна Еўрасаюз і ЗША не на баку беларускага Прэзідэнта. Страта падтрымкі з боку Расеі ў звязку з супрацьстаяннем ЕС і ЗША на надыходзячых прэзідэнцкіх выбарах можа паспрыяць альбо ўзмацненню дыктатуры, альбо адхіленню Лукашэнкі ад улады.

У апошнім фільме "Хросны бацька-3" некалькі разоў у сюжэце міргнуў беларускі паэт, лідэр кампаніі "Гавары праўду"! Уладзімір Някляеў, які ўжо выйшаў на палітычную сцэну Беларусі і які пры "спрыяльных" для яго ўмовах не адмаўляе магчымасць свайго ўдзелу ў выбарчай кампаніі.

Ці стане Уладзімір Някляеў кандыдатам, на якога зробіць апору Расія, пакажа час, але безумоўна, што пошук замены "бацькі" расейскім бокам працягваецца. Неабходна ж ратаваць саюз Беларусі і Расеі, які ідзе да поўнага краху, бо згубіць апошняга саюзніка расіяне пакуль яшчэ не гатовы.

Чакаем чацвёртую серыю...

## Окажите содействие!

**В Могилёве во время стычки с хулиганами получил серьёзные телесные повреждения председатель могилёвской городской организации независимого профсоюза радиоэлектронной промышленности и председатель Ленинской районной организации Белорусской социал-демократической партии (Грамады) Андрей Двигун.**

Инцидент произошёл 15 августа 2010 года, вечером около 22-00 на остановке "Драмтеатр" напротив магазина "Перекрёсток".

- Стычка произошла вечером, - рассказывает очевидец Ярослав, друг Андрея, - Когда я пошёл провожать подругу Катю. На автобусной остановке меня без всяких слов и объяснений ударили по лицу.

Следует отметить, что подруга Ярослава является представителем готической субкультры, была одета в чёрную одежду и имела многочисленный пирсинг. Скорее всего внешний вид Кати смог спровоцировать молодых "гопников".

Ярослав отмечает, что к нему подошёл пьяный молодой парень и ударил его по лицу и, смеясь, ушёл к своей компании. Ярослав позвонил Андрею, который находился недолеко от места происшествия и вскоре прибыл на помощь.

Компания поняла, что на них вызвали милицию и вскочили в первый попавшийся автобус. Андрей попытался вскочить вслед за ними, но получил удар, который как оказалось позже привёл к перелому предплечья.

На следующий день Андрею Двигуну сделали операцию. Учитывая характер перелома в гипсу Андрею придётся пробыть еще долгое время.

Если вы стали свидетелем этого происшествия, либо знаете лиц, которые совершили данное правонарушение просьба позванить Андрею по телефону 8 029 546 69 64 или в милицию по телефону 102. Надеемся на вашу солидарность.

***Коллектив редакции***

РЭДАКЦЫЙНАЯ



ПОШТА

**Сутыкнуліся з праблемай і не ведаеце да каго звярнуцца? Пішыце нам - мы паспрабуем дапамагчы Вам!**

Магілёў, вул. Ленінская, 29, оф. 315,
e-mail: mahilou@tut.by

## В Могилевской области планируют вернуться к запрету продажи спиртных напитков в ночное время

Проблемы, связанные с распространением потребления алкоголя, пьянства и алкоголизма, остаются по-прежнему значимыми не только для республики, но и для Могилевской области. Поэтому в регионе вновь планируют вернуться к запрету продажи спиртных напитков в ночное время, первоначально - в качестве эксперимента с 1 сентября текущего года до 1 января 2011 года.



**Навіны ад «Радыё Свабода»**

# Лядовая "палацаманія" набірае абароты

*Яўген Ворсін*

**Падчас прэзэнтацыі першай у Беларусі прафэсійнай жаночай хакейнай каманды "Пантэры" старшыня Беларускай хакейнай фэдэрацыі Яўген Ворсін заявіў, што неўзабаве ў краіне будзе дзейнічаць больш за паўсотні лядовых палацаў. Па гэтым паказьніку дзяржава ўвойдзе ў лік ня толькі эўрапейскіх, але і ўсясьветных лідэраў.**

На гэты момант у Беларусі ўжо пабудаваныя 23 лядовыя палацы. Прычым, узводзяцца хакейныя арэны ня толькі ў абласных цэнтрах і буйных гарадах, але і ў маланаселеных раённых цэнтрах. Прыкладам, ня так даўно пачалі закладаць пляцоўку пад будаўніцтва стратэгічнага аб'екта на радзіме Аляксандра Лукашэнкі, у 15-тысячным Шклове. Праўда, і зьмяшчальнасьць палацу будзе адпаведная - усяго 280 месцаў.

Яшчэ 28 лядовых палацаў будзе збудавана да 2014 году, калі Беларусь прыме хакейны чэмпіянат сьвету. Дарэчы, сёньня Беларусь стала 35-й краінай у сьвеце, дзе культывуецца жаночы хакей. Спадар Ворсін лічыць, што праз 2-3 гады Беларусь зможа заявіцца на ўдзел у чэмпіянаце сьвету па жаночым хакеі.

# Магілёў: камунальнікі супраць праваабаронцаў

**Магілёўскі праваабарончы цэнтар абавязаны выплаціць камунальнай управе Ленінскага раёну Магілёва 13 мільёнаў 658 тысяч рублёў запазычанасьці за арэнду сядзібы.**

Такое рашэньне прыняў Магілёўскі абласны гаспадарчы суд, куды з пазовам зьвярнуліся камунальнікі. Такіх грошай у праваабаронцаў няма, і яны будуць вымушаныя пакінуць памяшканьне.

Паводле сябра Магілёўскага праваабарончага цэнтру Барыса Бухеля, недаплату камунальнікі вылічылі ад 24 красавіка 2008 году. Ад таго дня няўрадавую арганізацыю пазбавілі льготнага каэфіцыенту аплаты арэнды, аднак пра гэта камунальнікі не паінфармавалі праваабаронцаў. Цягам двух гадоў, як сьцьвярджае Бухель, яго арганізацыя плаціла паводле тых рахункаў, якія выстаўлялі камунальнікі.

Магілёўскі праваабарончы цэнтар неаднойчы зьвяртаўся да ўлады, каб яму пакінулі палёгку ў аплаце арэнды сядзібы як гуманітарнай некамэрцыйнай арганізацыі.

"У судзе, аднак, высьветлілася, што ў заканадаўстве не існуе крытэрыяў, якія вызначаюць гуманітарны складнік дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў. Камунальнікі й управы маёмасьці выканаўчай улады самі гэта вызначаюць, зыходзячы са свайго разуменьня. Мы даводзілі, што аказваем прававую дапамогу грамадзянам бясплатна, але нікто гэтага не хацеў чуць. Суд паказаў, што любую няўрадавую арганізацыю, якая сумленна плаціла арэндную плату з улікам паніжальных каэфіцыентаў, можна задняй датай прызнаць недысцыплінаваным платнікам і спагнаць вялізную запазычанасьць. Аргумэнтацыя простая - ёсьць указ прэзыдэнта, які вышэйшы за дамову на арэнду. Такі падыход вядзе да таго, што ўлада зьнішчыць грамадзкія арганізацыі, якія палічыць небясьпечнымі для сябе", зазначае Барыс Бухель.

Паводле праваабаронцы, у суд камунальнікі зьвярнуліся пасьля патрабаваньня ўправы маёмасьці гарвыканкаму.

Плаціць 14 мільёнаў запазычанасьці й судовых выдаткаў праваабаронцы не зьбіраюцца, бо няма з чаго. Ад займанай цяпер сядзібы ім давядзецца адмовіцца. Далейшыя свае дзеяньні праваабарончая арганізацыя цяпер прадумвае.

Магілёўскі праваабарончы цэнтар утвораны ў 1998 годзе. Ад 2006 году арганізацыя ўваходзіць у камісію пры ўправе юстыцыі аблвыканкаму па назіраньні за месцамі пазбаўленьня волі ў рэгіёне. Камісію ачольвае сябра праваабарончага цэнтру. Няўрадавая арганізацыя актыўна ўдзельнічае ў выбарчых кампаніях.



# Богатые и бедные белорусы: где они работают

*Дмитрий ЗАЯЦ , Naviny.by*

**Зарплаты в Беларуси растут. По сравнению с началом года доходы работников всех отраслей экономики увеличились. Но прибавка к зарплате имела разное значение для населения - потому что зарплаты у людей отличаются весьма существенно. Сегодня "Белорусские новости" рассказывают о самых бедных белорусах и тех, чьему доходу многие могут позавидовать.**

Задача правительства достичь в 2010 году 500-долларовой зарплаты порождает в умах определенную двусмысленность. Кажется, что речь идет о доходе, который белорусы будут гарантированно получать к концу года.

Из правительственной риторики ускользает тот факт, что 500 долларов - усредненный показатель, который будет выведен исходя из доходов всех категорий населения - бедных, богатых, и тех, кто между ними.

Чтобы расставить точки над "i" в этом вопросе, мы ниже показываем текущий уровень доходов наибольшей части трудоспособного населения. В отраслевом разрезе. Для корректности данных приведем зарплаты в долларовом эквиваленте - так будет нагляднее видно, кто обещанную 500-долларовую зарплату получит, а для кого она так и останется несбыточной мечтой.

В отраслевом разрезе доходы наиболее обеспеченной части населения выглядят следующим образом. Самые богатые люди Беларуси, согласно последним статистическим данным, работают в энергетической сфере (нефтепереработке, трубопроводном транспорте), банках. Зарплаты у этих категорий работников превысили в июне 700 долларов.

Более 500 долларов в июне получали представители химической, нефтехимической промышленности, работники металлургической, строительной отрасли. По уровню начисленной зарплаты от них не отстают работники органов госуправления, судов и юридических учреждений.

Среднесписочная численность работников всех предприятий составила в июне 3,28 млн человек. Средняя зарплата в размере более 500 долларов в первом летнем месяце была характерна для 16 категорий работников, общая численность которых - почти 770 тысяч.

С учетом того, что правительство планирует продолжать повышать зарплату во втором полугодии, можно ожидать, что к запланированному 500-долларовому порогу подтянется зарплата в электроэнергетике, нефтехимии, машиностроении, пищевой промышленности. В указанных отраслях средняя зарплата в июне составляла 430-450 долларов.

Однако в стране немало больших социальных групп, которые зарабатывают заметно меньше. Это касается работников сельского хозяйства, здравоохранения, образования, жилищно-коммунального хозяйства, легкой промышленности, тех, кто занят в сфере культуры и искусства. Средняя зарплата там, как правило, не превышает 350 долларов, а во многих случаях меньше 300 долларов.

Так, по состоянию на июнь средняя зарплата учителей составляла 321 доллар, работников сельского хозяйства - 277 долларов, в сфере культуры и искусства - 297 долларов, в легкой промышленности - 289 долларов, в системе здравоохранения - 330 долларов.

Поэтому приходится констатировать, что 500-долларовая планка в оплате труда, поставленная правительством на 2010 год, - показатель усредненный, который не показывает реальные доходы значительной части населения.

В упомянутых выше сферах - здравоохранении, образовании, сельском хозяйстве - работают более миллиона человек. То есть, считай, каждый третий работник не будет и близко получать 500-долларовой зарплаты, о которой все так говорят.

Следует обратить внимание на вот еще какое обстоятельство. По данным Министерства труда и социальной защиты, межотраслевая дифференциация в оплате труда составляет сегодня 3,3 раза (это разница между наиболее высокооплачиваемыми и низкооплачиваемыми категориями населения). Для сравнения: в 2000 году межотраслевая дифференциация в оплате труда была вдвое больше - 6,7 раза.

По мнению экспертов Исследовательского центра ИПМ, снижение межотраслевой дифференциации труда было вызвано целенаправленной политикой правительства в этой сфере. Поскольку единая тарифная сетка распространялась как на государственные, так и на частные предприятия, правительству удавалось регулировать размер зарплат в отраслях экономики. Чтобы она сильно не отличалась.

"Однако такой подход не стимулирует производительность труда, заинтересованность работников и руководителей в улучшении финансово-экономических показателей работы предприятий. Как следствие, этот фактор негативно влияет и на общую деловую активность в стране", - констатирует экономист Исследовательского центра ИПМ Анастасия Гламбоцкая.

# КУКУРУЗА. НЕЛЕГАЛЬНЫ БІЗНЕС

*Вітольд НЯЎРЫДА*

**Кукурузны сезон у самым роскіце. Нелегальны продаж кукурузы б'ець усе рэкорды.**

**Каля кожнай крамы, міні-рынка, любога люднага месца сядзяць бабулькі, дзядулькі, падпітыя і падбітыя цёценькі і дзядзечкі, якія прапаноўваюць набыць пачатак варанай кукурузы за 1000 рублёў, сырой за 500. Часам зарабляе грошы і моладзь, але ў асноўным прыезжая з прылягаючых да Магілёва вёсак.**

**Нелегальных гандляроў не пужаюць ні штрафы, ні супрацоўнікі міліцыі ў сіняй форме.**

Як адзначыў адзін з прадаўцоў кукурузы "Нават калі мяне штрафуюць - я вельмі хутка адбіваю суму штрафа, бо "сезон"".

Кукурузу ж усе гэтыя гандляры бяруць на калгасных палях, якія слаба ахоўваюцца, ды ўпільнаваць злодзеяў у такіх зарослях даволі складана. Вось і апрацоўваюць дзяржаўныя насевы беспрацоўныя, пенсіянеры і аматары дадатковага заробка.

Кукурузны ж бізнес у Беларусі абсалютна не развіты. Набыць пачаткі кукурузы ў дзяржаўнае краме "Садавіна -гародніна" проста немагчыма, бо ў асноўным яна ідзе на харчы жывёлам. Аўтар гэтага артыкула абыйшоў некалькі такіх крамаў і ва ўсіх іх кукурузы не было. Прадаўшчыцы ж толькі пацiсквалі плячыма і канстатавалі, што проста не было - значыць не было заказаў і мы тут не прычым.

Адна з жанчын, якая займаецца нелегальным продажам кукурузы, пагадзілася распавесці пра асаблівасці свайго нелегальнага бізнеса.

"Кукурузу рвем на калгасных палях, - распавядае жанчына, - потым прадаем каля крамы. Я займаюся продажам пасля сваёй асноўнай працы. У дзень, за некалькі гадзінаў, можна заробіць 50-60 тысяч. Пры адсутнасці канкурэнтаў значна больш. Адзін раз за дзень я выручыла цэлых 100 тысяч рублёў. У мяне нізкі заробак і гэта дазваляе мне неяк выкараскацца ў эканамічным плане, раздаць даўгі".

Такім чынам можна падсумаваць, што заняцце нелегальным продажам кукурузы для пэўнай катэгорыі грамадзян даволі прыбытковае. Можна заробіць у сезон (прыяд каля 1,5 месяцы) лішні мільён ці два рублёў - гэта пры ўмове працы некалькі гадзін у дзень.

У падземным пераходзе, што на плошчы Леніна продаж кукурузы пастаўлена на паток - адзін гандлюе, другі - падвожае, трэці сочыць за тым, каб супрацоўнікі міліцыі не зайшлі і калі яны з'яўляюцца на далягляддзе, то хуценька згортваюць пачаткі і хаваюцца.

Так і хочацца запытаць, калі хто арганізуе і сістэматызуе кукурузны бізнес, бо ў дзяржаўнае краме яе не купіць, а купляецца толькі тая, якую скралі з бліжэйшы палёў. Усе гэта ведаюць, але ніхто нічога не робіць.

# АЭС для Беларуси: зря не договорились с французами?

*Андрей КОЖЕМЯКИН, БелаПАН*

**Инвесторы из Европы, США и Китая не захотят вкладывать средства в строительство белорусской атомной станции. Такое мнение "Белорусским новостям" высказали аналитики российского энергетического сектора. На их взгляд, с технологической, финансовой и политической точки зрения Беларуси лучше договориться с Россией. Белорусский эксперт добавляет: зря не договорились с французами!**

**На прошлой неделе Александр Лукашенко рискнул сделать довольно смелое заявление по поводу того, что Беларусь может отказаться от услуг России и начать переговоры с другими инвесторами.**

"Если Россия не будет строить у нас атомную станцию, а сейчас идут эти переговоры, мы будем договариваться с другими инвесторами. В мире они есть. Пускай немножко мы потеряем время - не горит. Но мы суверенное государство, мы просим кредит, не дешевый, тогда мы за него будем строить атомную станцию с другим государством", - заявил глава государства.

Пока такие переговоры не велись. "Прямых переговоров не было. Все говорят: если вы бросите Россию, тогда другое дело", - заявил ПРАЙМ-ТАСС источник в топливно-энергетическом секторе Беларуси.



Аналитик ИК "Энергокапитал" Александр Игнатюк считает, что начинать такие переговоры нецелесообразно. "Атомный сектор, строительство АЭС, эксплуатация - это не только экономический, но и политический вопрос. Беларуси придется выстраивать отношения с новым партнером, и здесь ситуация может повернуться непредсказуемо".

Ключевым рынком для основных игроков атомного сектора, по словам Игнатюка, сегодня является Азия, где сосредоточен максимум усилий американских и французских компаний, занимающихся строительством атомных станций. Беларуси будет сложно рассчитывать на интерес к проекту со стороны этих инвесторов.

При этом, как подчеркивает аналитик, для европейских и американских компаний одним из ключевых является вопрос инвестирования.

"В Европе серьезная проблема с суверенными долгами, которые будут покрываться за бюджетные средства. В связи с этим сейчас увеличивается фискальное давление на бизнес, в том числе и на энергетику. Поэтому едва ли европейцы или американцы будут участвовать в таких рисковых для себя проектах, как строительство атомной станции в Беларуси", - сказал Игнатюк.

В отличие от России, ни американцы, ни французы не давали гарантий финансирования строительства АЭС, что тем более сводит их возможное участие в этом проекте к нулю. Из потенциальных инвесторов, кому Беларусь делала предложения по участию в проекте, прокредитовать строительство станции может Китай, готовый реализовать в Беларуси проекты на 15 млрд. долларов.

Еще в прошлом году во время визита в Минск вице-премьера госсовета КНР Хуэй Лянъюя власти КНР предлагали услуги Китайской национальной атомной корпорации. "Участие в строительстве АЭС в Беларуси для нас по-прежнему интересно, и мы готовы обсуждать с Минском конкретные условия", - заявил "Коммерсанту" источник в МИД КНР.

Но, как отмечает Игнатюк, китайские компании не смогут обеспечить требуемый для Беларуси технологический уровень строительства атомной станции. Кроме того, по словам эксперта, "Китай реализует широкую программу строительства АЭС внутри страны. В стране активно развивается атомная энергетика, и появились большие возможности для инвестирования именно на внутреннем рынке".

По словам директора Фонда энергетического развития (Россия) Сергея Пикина, "китайцы научились производить неплохое оборудование для тепловых станций, для гидростанций, занимаются АЭС, но таких комплексных проектов по возведению атомных станций за рубежом, если говорить об обучении персонала, поставках топлива, Китай не реализовывал. Интересы Китая сосредоточены в рынках сбыта продукции".

Также эксперт не исключает, что другой инвестор потребует от Беларуси гарантий окупаемости проекта. По оценкам специалистов, окупаемость средств в белорусскую АЭС может составить 15-20 лет. "Но есть сомнения, что Беларусь вообще может четко дать гарантии окупаемости с учетом возможных проблем по сбыту электроэнергии", - полагает Пикин.

К 2016 году российская сторона предполагает ввести в эксплуатации Балтийскую АЭС, которая будет отчасти конкурировать с белорусской атомной станцией в части экспорта электроэнергии. Строительство станции запланировали Литва и Польша. Правда, реализация этих проектов, как и в Беларуси, затягивается. Вместе с тем, Пикин не исключает, что Беларусь может столкнуться с дефицитом спроса на электроэнергию, вырабатываемую АЭС.

"Перспективные балансы поставок электроэнергии, с учетом строительства новых станций, насколько я понимаю, Беларусью не просчитывались, - сказал эксперт. - Это создает серьезную неопределенность по рынку сбыта: куда поставлять электроэнергию, в каком объеме, по каким ценам? Это приведет к тому, что срок окупаемости проекта окажется более длительным, чем предполагалось ранее".

Да и начало реализации проекта затянется на неопределенный срок, если Беларусь заново начнет переговоры по строительству АЭС, но уже с новым инвестором.

По мнению минского экономиста Сергея Чалого, "теоретически возможно привлечение другого, помимо России, инвестора для строительства АЭС, но практически это реализовать довольно сложно. Мне кажется, с самого начала было ошибкой подробно не рассматривать предложение французской "Аревы".

Эксперт пояснил: "Ведь проиграла она России во многом из-за сроков строительства. Но, во-первых, сроки - это уже не столь значимый вопрос. Кроме того, есть большие сомнения, что Россия назвала реальные сроки введения станции в действие. Французы, которые намеревались ввести объекты на два года позже, имели в виду реальные сроки. И мне кажется, французское предложение было более конкурентоспособным и менее затратным для Беларуси".

При этом эксперт не считает, что проект оказался под реальной угрозой срыва. "Ведь это серьезная и значимая сделка для российской атомной промышленности", - подчеркнул Чалый.

## *Дайджест от Алеся Татарского*

**У тихой охоты тоже бывают жертвы**

В Беларуси сезон отравлений грибами - уже пострадали 45 человек.

С начала года, пишет БЕЛТА, зарегистрировано 44 случая отравления грибами, пострадали 45 человек. По информации Республиканского центра гигиены, эпидемиологии и общественного здоровья, больше всего пострадавших в Минске - 35.

**Сингапурский бизнесмен проиграл в казино 20 млн. долларов**

В Сингапуре местный бизнесмен в буквальном смысле проснулся знаменитым: азартный "загул", растянувшийся на целых три дня, увенчался фантастическим проигрышем - 26,3 млн. сингапурских долларов.

**Источник в правоохранительных органах Москвы сообщил РИА Новости, что бывший священник лютеранской церкви смертельно ранил себя в четверг вечером в своей квартире из пистолета-ручки на юго-западе города.**

"Прибывшие на место инцидента оперативники обнаружили в квартире тело 35-летнего мужчины с огнестрельным ранением в голову.

По словам матери погибшего, потерпевший играл перед зеркалом с самодельным оружием, после чего прогремел выстрел.

**В Чернобыле к 25-летию аварии на АЭС (26 апреля 2011 года) строят парк-музей. Для этих целей в центре города выделена территория, которая сейчас расчищается.**

Уже снесено около 20 строений - в основном заброшенные ветхие дома, а также старый универмаг. Сам парк будет создан по образу киевского Пирогово.

Парк в Чернобыле наверняка станет еще одной приманкой для туристов, которых с каждым годом в зоне отчуждения становится все больше. В прошлом году ее посетили 7 тыс. человек, а за 7 месяцев нынешнего года - около 5 тыс.

**Оренбуржец расстрелял из обреза автомобиль.**

Милиционеры увидели, как нетрезвый мужчина стреляет из обреза ружья по стоящему автомобилю KIA Spectra. На требования стражей порядка прекратить стрельбу мужчина не отреагировал, и успокоился только после предупредительного выстрела, сообщил представитель пресс-службы областного УВД.

**Китайцы намерены построить второй по мощности в мире суперкомпьютер.**

Китайские разработчики намерены в 2010 году построить суперкомпьютер мощностью в один петафлоп.

Новая система будет основана на процессорах китайского производства "Godson 3". На данный момент последний находится на стадии разработки.

Самый мощный в мире суперкомпьютер "IBM Roadrunner" находится в США, и его мощность равна 1,026 петафлоп. Он используется военными разработчиками для просчета испытания вооружений.

**Ревнивый чеченец угнал "КамАЗ" в поисках возлюбленной.**

Уроженец Чеченской Республики, приревновавший свою возлюбленную, угнал "КамАЗ", на котором колесил в поисках девушки, пока не попал в милицию. Как говорится на internet-сайте ГУВД по Московской области, инцидент произошел в деревне Пятница Солнечногорского района Подмосковья.

Конкурс продложается:

Придумай слоган и получи новый iPhone!

Подробности на:
http://zapraudu.info/slogan

# Народ пра вылучэнне Някляева дэлегатам на IV Усебеларускі народны сход: "Хай ідзе!"



**У Магілёве працягваецца збор подпісаў за вылучэнне лідэра кампаніі "Гавары праўду"! дэлегатам на IV Усебеларускі народны сход.**

Актывісты кампаніі распавядаюць пра асаблівасці збору подпісаў і як ставіцца народ да ідэі вылучэння такім шляхам Уладзіміра Някляева на Ўсебеларускі народны сход.

Моладзевы актывіст кампаніі Кірыл Грыхін адзначае, што ён за тры дні назбіраў 100 подпісаў.

- У прынцыпе людзі падпісваюцца нармальна. Асабліва калі кажаш, што гэта паэт і яго вершы вам добра вядомы. Некаторыя кажуць, што не будуць падпісвацца, бо не ведаю яго. Ёсць людзі, якім толькі пачынаеш казаць пра Някляева, як яны цябе прыпыняюць і кажуць - менш тэкста, давайце асадку буду падпісвацца. Акрамя гэтага ў мяне ў брыгадзе зборам займаецца яшчэ 8 чалавек. Колькі усяго сабрала мая брыгада буду ведаць бліжэй к вечару.

- Подпісы збіраюцца цяжка - я за некалькі дзён назбіраў усяго 50. Вялікая перашкода пры зборы подпісаў - неабходнасць пазначаць пашпартныя дадзеныя падпісантаў. Шмат хто насцярожваецца, некаторыя проста не адчыняюць дзверы. Я паkуль абмежаваўся зборам у сваім атачэнні. Як толькі скончацца сваякі, сябры, знаёмыя - буду больш выходзіць на незнаёмых людзей, - гаворыць актывіст Мікола Севярынцаў.

- Я за два дні сабраў 40 подпісаў, - кажа актывіст Алесь Лёгенькі, - галоўнае пры зборы - гэта аргументацыя. Я камерсант і ад мяне яшчэ проста так ніхто не сышоў. Вельмі важным аргументам з'яўляюцца вядомыя спевы на вершы паэта "Гуляць так гуляць", "Карнавал", "Гора за гарой" і г.д. Некаторыя так і кажуць - хай ідзе!

Актывіст Алесь Паплыка кажа, што сёння паспрабаваў збіраць подпісы на вуліцы ў мінакоў.

- Я чалавек вулічны, не люблю хадзіць па кватэрах. Не магу пахваліцца вялікімі дасягненнямі за адзін дзень, але працэс паціхоньку пайшоў.

Лідэр Магілёўскай кампаніі "Гавары праўду"! Сяргей Лапуцін адзначае, што актывісты кампаніі ў горадзе плануюць сабраць не менш за тры тысячы подпісаў.

## Падпісныя лісты ў аблсавет - праз пошту

**Актывісты кампаніі "Гавары праўду!" у Магілёве 12 жніўня здалі подпісы жыхароў мікрараёна "Тэхнапрыбор" прадстаўнікам гарадскога і абласнога Савета дэпутатаў. Жыхары мікрараёна выказваліся за будаўніцтва аўтамабільнага і пешаходнага мастоў праз чыгуначныя пуці, што б дазволіла звязаць іх мікрараён з мікрараёнам "Юбілейны", які знаходзіца блізка да цэнтру горада.**

"У будынку аблвыканкама мы сутыкнуліся з праблемай, - гаворыць актывістка кампаніі "Гавары праўду!" Аксана Закрэўская. - Супрацоўнік міліцыі адмаўляўся прапусціць нас у прыёмную абласнога Савета дэпутатаў, куды мы збіраліся аднесці свае подпісы. Пры гэтым ён пачаў запытваць інфармацыю пра тое, хто мы, адкуль мы, якія подпісы нясем, вельмі доўга праглядаў іх. Пасля гэтага ён запрасіў сакратарку, якая выйшла і прапанавала проста аддаць ёй гэтыя подпісы".

Актывісты адзначылі, што хочуць быць перакананыя ў тым, што падаваемыя імі 1005 арыгінальных подпісаў на 67 падпісных аркушах будуць зарэгістраваныя.

"Жанчына сказала, што яна гэтым займаецца сама і зробіць гэта без нас, - працягвае актывістка. - Яна сказала, што такой працэдуры, каб мы прысутнічалі пры рэгістрацыі подпісаў у іх не існуе і параіла нам альбо прайсці ў 113 кабінет і проста пакінуць іх у скрынцы для абласнога Савета дэпутатаў, альбо пайсці на пошту і адправіць іх заказным пісьмом. Мы выбралі другі варыянт - зрабілі опіс і адправілі пісьмо па пошце. Адказ прыйдзе на мой адрас і я буду ведаць хто атрымаў подпісы, калі і ў які час".

У гарадскім Савеце дэпутатаў такой праблемы не ўзнікла. Актывістаў прынялі без праблем.

"У прыёмным пакоі дэпутатаў прысутнічаў адзін з іх - Фёдар Міхеенка, - працягвае Аксана, - які пачаў даваць каментары датычна нашай актыўнасці. Маўляў, вы думаеце, што мы не ведаем пра гэтую праблему, што ў нас іншых больш істотных праблем няма? Мы ўсё ведаем, а вы нам ледзь не план склалі рэканструкцыі раёна".

Пасля доўгага прагляду подпісаў яны, нарэшце, былі зарэгістраваныя.

Актывістка адзначае, што наступны раз яны ўсё ж такі паспрабуюць прайсці ў абласны Савет дэпутатаў, каб асабіста прысутнічаць пры рэгістрацыі подпісаў.

Юрыст кампаніі "Гавары праўду!" Сяргей Фамін адзначае, што міліцыянер не мае ніякіх правоў каб не пускаць у прыёмную абласнога Савета дэпутатаў актывістаў.

"Гэта дэпартамент ахоўы, які ахоўвае будынак і днём і ноччу, ад злачынцаў рознага кшталту. Гэта не іх кампетэнцыя пускаць людзей да народных аб-



ранцаў ці не. Калі чалавек падазроны - можна праверыць дакументы, але калі ты нясеш дакументы народным абраннікам каб іх зарэгістравалі ў прыёмнай - гэта ўжо проста нахабства", - гаворыць Сяргей Фамін.

Нагадаем, што ў мікраране "Тэхнапрыбор" пражывае больш за 10 тысяч чалавек і спробы вырашаць гэтую праблему шляхам збору подпісаў прадпрымаліся неаднаразова. Апошні афіцыйны адказ ад прадстаўнікоў мясцовай улады быў такі: будаўніцтва маста пачнецца ў 2014 годзе.

## Средняя заработная плата 1,5 миллиона правда или ложь?

**С таким текстов 8 августа в День строителя в Могилёве активистами кампании "Говори правду"! было вывешено семь растяжек.**

Растяжки были вывешены на строительных объектах возле гостиницы "Могилёв", Торгового центра "Панорама", дома гражданских обрядов, на стройке многоэтажного дома возле реки Дубровенки, возле стройки по благоустройству реки Дубровенки, магазина "Театральный" и парка отдыха имени Горького.




Активисты кампании "Говори правду"! отмечают, что целью этой акции было показать низкие зарплаты строителей в Могилёвской области, которые значительно уступают зарплатам столичных строителей, хотя они делают одну и ту же работу.

"Хоть у нас в области официально средняя заработная плата в строительстве и составляет 1412 тысяч рублей - её такой видят может только начальники, - говорит один из инициаторов акции, - простые же рабочие-строители получают в среднем 700-800 тысяч рублей. Мы хотели, чтобы рабочие задумались о том, что их обманывают, постоянно недоплачивают, заставляют работать сверхурочно, а они молчат и ничего не предпринимают. Может быть это будет импульсом к изменению ситуации".


**Наш Магілёў**

**Незалежнае грамадска - палітычнае выданне Горада**
**Выдавец Андрусь Волкаў, дырэктар Вітольд Няўрыда.**
**Надрукавана на ксераксе ў горадзе Магілёве. Наклад: 299 ас.**
**e-mail: mahilou@tut.by**